# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 31 (1014) ГОД XX 3 ЖНІЎНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.





### ПАЧАТАК

*Цябе, пястуху лугавую і гарэзу,*
*Хтось выпрастаў у ніцую струну,*
*І горла спеўнае бульдозерам парэзаў,*
*І кінуў у канаву, бы ў труну.*

*Шумлівы гай — сябрук зеленавокі, —*
*Што над вірамі мройна летуцеў,*
*Прабіўшы галавой аблокі,*
*У незваротны вырай адляцеў.*

*Наўкруг чарнеюць пні... Абшар шырокі*
*Напятай цішынёй гудзе.*
*Дзе вы, мае гаючыя вытокі?*
*Дзе песня мая радасная, дзе?*

*Рачулка любая, сястрыца!*
*Даруй мне, невуку і лайдаку,*
*Што я цябе адну пакінуў біцца,*
*А сам пайшоў шукаць вялікую раку.*

*Як пакараў сябе спаўна, бясконца,*
*Унь камяні шчарбатыя смяюцца:*
*„Перш чым імчаць расхрыстана да сонца,*
*Падумай, каб было куды вярнуцца“.*

**Вячаслаў Дашкевіч**

### У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

**13 ліпеня г.г. адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Абмеркавала яно становішча ў навучанні беларускай мовы ў школах. Раптоўнае паменшанне ў апошніх гадах ліку вучняў, якія вывучаюць гэты прадмет, выклікае сур'ёзны непакой. З мэтай паляпшэння становішча, Прэзідыум апрацаваў шэраг прапаноў, з якімі звернецца да асветных улад і да сваіх актывістаў.**

**Прэзідыум ГП БГКТ выслухаў таксама інфармацыю галоўнага бухгалтара ГП БГКТ Галены Мялешка аб рэалізацыі бюджэту за першую палову 1975 года.**

РЭПАРТАЖ З ВЁСКІ КРЫВЯЦІЧЫ

## СЫН ПЧАЛЯРА

— Сын лепш за мяне цяпер гаспадарыць, — без хістання адразу заявіў стары вопытны пчаляр і столяр, Іван Сачко з вёскі Крывяцічы ў Арлянскай гміне. — Але пчол ён баіцца і не любіць іх. Дык я перадаў яму ўсю гаспадарку, а сабе пакінуў гэтыя 72 вулеі...

— А дзе ваш сын?

— А ён вунь там, на загуменні, косіць рапак.

Найперш пачулі мыляскатню трактара, які быў ледзь відны за высокай сцяной ужо пажаўцелага рапсу.

Гаспадар аб'яўляе сям'і кароткі перапынак у працы, а сам вітае гасцей.

Сям'я яго, аднак, не пакідае працу. Жонка, цёшча і дзве дачкі вяжуць скошаны рапс у снапы, а сын Уладзімір — той сам, што сёлета закончыў сталярскую прафесіянальную школу ў Гайнаўцы — корпаецца пры рухавіку трактара. Аказваецца, што ён у сям'і Сачкоў з'яўляецца цяпер галоўным механікам.

— Пане аграном, — звяртаецца Фёдар Сачко да кіраўніка гміннай сельскагаспадарчай службы, — як з гэтай фоліяй для сіласаў? Будзе яна ўрэшце ці не? Паглядзіце, якая вунь трава ўжо вырасла! Пара б яе на сілас скасіць...

— Мінеральных угнаенняў вы тут, бадай, не пашкадавалі, — гавару я, гледзячы на сакавітую траву.

— У гаспадарцы пана Сачко, — заяўляе аграном, — на адзін гектар зямельных угоддзяў прыпадае звыш 240 кг НПК.

— Лічыць чужое выдатна вы патрапіце, — нібы абураецца селянін, а ў сапраўднасці рады, што аграном яго хваліць. — Але як мне без фоліі засіласаваць траву?

— Фолія ўжо ёсць, — паясняе аграном. — Вы не турбуйцеся. У нашай гміне запланавалі мы ў рамках абучэння сялян нарыхтаваць у гэтым годзе на кошт гміны 800 тон сіласу з другога пакосу травы. Паказовае сіласаванне правядзем і ў вас.

— Каб толькі не прыйшлося чакаць аж да Пакровы. — засцерагаецца гаспадар.

Разумею яго хваляванне. Рашыў ён спецыялізавацца ў гадоўлі маладога быдла, так званых „букатаў“. Для гэтага трэба многа корму. А сілас з травы лепшы ад сухога сена. Гадоўля маладога быдла з'яўляецца даволі рэнтабельным мерапрыемствам. Цялят вагою ад 80 да 100 кг купляў Фёдар Сачко па 2000—2500 зл., пасля 18-ць месяцаў адкормліваў іх да нейкіх 600 кг і прадаваў па звыш 16 тысяч зл.

— Ну, канчайце, татку, размову, да-

(Працяг на стар. 5)



**Галоўным механікам у сям'і Сачко з Крывяціч з'яўляецца наймалодшы прадстаўнік гэтага роду — Валодзя Сачко.**



**Кіраўнік сельскагаспадарчай службы Арлянскай гміны Уладзімір Кубаеўскі (злева) бывае частым госцем на полі ў Фёдара Сачко з вёскі Крывяцічы.**

## УСІМ СЭРЦАМ

Адразу пасля ўрокаў са старшакласнікамі **Ірына Навацкая** — настаўніца беларускай мовы ў пачатковай васьмікласнай школе № 2 у Гайнаўцы — спяшаецца на заняткі з групай дашкольнікаў. На прасторным і шумлівым калідоры яе акружае грамадка гарцэраў са школьнай дружыны, якой яна апякуецца. Мноства неадкладных спраў, звязаных з мерапрыемствам, што дружына рыхтуе на заканчэнне школьнага года. Пасля поўдня мела быць пасяджэнне педагагічнага савета...

— І скажу вам праўду, — заўважае яна, — адчуваю сябе ў гэтым віры, бы рыба ў вадзе. Школу і дзяцей люблю ўсім сэрцам, гэта мая стыхія. Нават не паспела азірнуцца, як дваццаць тры гады пранастаўнічала.

І. Навацкая родам з вёскі Вітава. Закончыўшы ў 1951 г. агульнаадукацыйны ліцэй у Бельску, пайшла на пяцімесячныя настаўніцкія курсы і адразу пасля іх пачала працаваць у вясковай школцы ў Старыне, што прысела на ўскраіне Белавежскай пушчы ля самай дзяржаўнай граніцы. У тыя часы гэта была забітая дошкамі ад свету, глухая мясціна. Але маладая настаўніца беларускай мовы, замест вярэдзіць сваю душу нудой па яркіх і гучных гарадскіх цэнтрах культуры, занялася працай з дарослай моладдзю і старэйшымі жыхарамі гэтага пушчанскага сяла. Вечарамі школа заўсёды была поўная людзей: старэйшыя прыходзілі пагаварыць пра навіны на свеце, паслухаць цікавы артыкул з газеты ці часопіса, моладзь жа — арганізаваць вечарыну ці падрыхтаваць „камедыйку“. З поспехам ставілі „Мікітаў лапаць“ і іншыя п'есы. Выйшла замуж за афіцэра-пагранічніка. Неўзабаве маладая пара пасялілася ў Гайнаўцы, і І. Навацкая працягвала працаваць у гайнаўскіх школах. Навучала беларускай мове ў пачатковай школе і агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання, а вось ужо адзінаццаты год працуе ў пачатковай школе № 2 імя А. Фларэнкі. Цяпер выкладае ўсе прадметы ў 3-м класе і беларускую мову ў VII класе.



— Вучыць дзяцей беларускай мове ў горадзе нялёгка. Бо на самай справе яны маюць з беларускай мовай такія самыя цяжкасці, як і з рускай. Бацькі і ўсё асяроддзе ў асноўным гавораць на польскай мове. Найгорш жа з дзяцьмі тых бацькоў, што хоць самі выйшлі з вёсак, але пабудаваліся ў Гайнаўцы, прыдбалі легкавыя машыны і ўжо ўважаюць сябе за вялікіх паноў ды пагарджаюць сваёй роднай мовай і ўсім, што беларускае. Таму настаўнік беларускай мовы павінен праявіць асаблівы педагагічны такт і па-майстэрску весці заняткі, каб заахвоціць дзяцей да вывучэння роднай мовы. Ці мне гэта ўдаецца? Не буду хваліцца, але ў мяне вучні ахвотна ходзяць на ўрокі беларускай мовы. Пачынаю ў другім класе звычайна ад расказаў беларускіх народных казак, пераказу цікавых апавяданняў беларускіх

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“

**Рэпартаж з калёніі Антанова ● 16 год працы над падручнікамі беларускай мовы ● Слова ў дыскусіі з Уроцлава ● Генадзь Цітовіч ● Арцём Чыквін ● Хацеў салодка, то мае горка ● І так бывае ● Весткі з Войнаўкі, Імшару, Галадоў, Чаромхі, Пасынак, Зубава, Гайнаўкі, Белавежы, Саколкі, Крынак, Гарадка, Паўлоў, Чыжоў ● Калі прысняцца свежыя кветкі ● Песня „Słowo jedyne — ty“.**

Карэспандэнцыя з Мінска

# САНАТОРЫЙ „КРЫНІЦА"

Усяго 30 мінут язды рэйсавым аўтобусам ад Цэнтральнай плошчы беларускай сталіцы па шашы Мінск-Вільнюс — і вы трапіце ў цудоўны куток беларускай зямлі, дзе ціха шуміць сасновы бор, трапечуцца на ветры ліствою бярозы, няспешна бяжыць між лугоў і пералескаў нешырокая рака Свіслач. Але людзей цягне сюды не толькі прыгажосць прыроды. Галоўнае заключаецца ў тым, што тут знойдзены мінеральныя крыніцы. Раней паўсюдна бывала думка, што нетры беларускай зямлі бедныя і весці тут якія б там не было пошукі бескарысна.

Толькі ў гады Савецкай улады пачалася планамерная работа па выяўленню ўкрытых багаццяў рэспублікі, і вынікі пераўзышлі ўсе чаканні — былі знойдзены шматлікія месцанараджэнні глін, пяскоў, патрэбных для народнай гаспадаркі. Цяпер паспяхова вядзецца распрацоўка багацейшых пакладаў калійнай солі, на прамысловыя асновы пастаўлена здабыча нафты.

Адкрыццё крыніц ждановіцкай мінеральнай вады (названай так ад імя недалёкага пасёлка) дало магчымасць стварыць у непасрэднай блізкасці ад Мінска буйную бальнеалагічную здраўніцу. За параўнальна невялікі тэрмін працы санаторыя „Крыніца" (першых наведвальнікаў тут прымалі ў студзені 1966 г.) яго папулярнасць выйшла далёка за межы рэспублікі. Штогод тут папраўляюць сваё здароўе звыш 7,5 тыс. чалавек. Пуцёўкі сюды ў асноўным атрымліваюць працоўныя Беларусі і суседніх рэспублік. Памяркоўны клімат Міншчыны, пераважанне сонечных дзён, вялікія масівы хвойнага лесу і недалёка раскінутае Заслаўскае водасховішча ствараюць прыродны комплекс, які добра ўздзейнічае на здароўе чалавека. Людзям, што прыехалі сюды на лячэнне з суседніх рэспублік, не трэба часу для акліматызацыі і з першых жа дзён могуць яны прымаць розныя працэдуры.

Па свайму хімічнаму складу ждановіцкая вада з'яўляецца хларыдна-сульфатна-натрыева-кальцыева-магнівай. Яна рэкамендуецца як для піцця, так і для розных ваннаў і душаў пры гастрытах, язве страўніка і дванаццаціперснай кішкі, хранічных калітах і некаторых іншых захворваннях страўнікава-кішачнага тракту. Акрамя лячэння мінеральнай вадой, якое складае тут аснову лячэбнага працэсу, хворых і адпачываючых, калі ёсць да гэтага паказанні, накіроўваюць у фізіятэрапеўтычны кабінет, на парафінаазакерыталячэнне і ў водалячэбніцу, дзе выкарыстоўваюцца розныя ванны з падводным душам-масажам і іншыя працэдуры.

Лячэбныя кабінеты абсталяваны па-сучаснаму, тут працуюць высокакваліфікаваныя спецыялісты — лекары розных профіляў, вопытныя і сардэчныя медыцынскія сёстры. Уся іх праца падначалена адной мэце — клопатам аб здароўі хворых і адпачываючых. А ў гэта паняцце ўваходзяць не толькі лячэбныя працэдуры, але і заняткі гімнастыкай па асобай праграме, дыетычнае харчаванне, у распрацоўцы рэцэптаў якога прымаў удзел Інстытут харчавання Акадэміі медыцынскіх навук СССР. Сістэма папярэдніх заказаў харчавання, прынятая ў санаторыі, дае магчымасць спалучаць выбар страў са смакам і пажаданнямі хворага.

Вялікую ўвагу ў санаторыі ўдзяляюць культурным запросам хворых і адпачываючых. Для іх пастаянна праводзяцца экскурсіі на фабрыкі і заводы, у музеі, да мемарыяльнага комплексу „Хатынь", на Курган славы, створаныя ў гонар мужнасці і гераізму беларускага народа. Рэгулярна праводзяцца калектыўныя наведванні тэатраў і канцэртных залаў Мінска, а нярэдка творчыя калектывы і асобныя выканаўцы выступаюць непасрэдна ў „Крыніцах". Для хворых і адпачываючых у санаторыі ёсць багатая бібліятэка, летні і зімовы кінатэатры, музычны салон, спартыўная і танцавальная пляцоўкі.


*Адзін з карпусоў санаторыя „Крыніца".*

**Валянціна Трыгубовіч**
Фота В. Казлова

ШТО НОВАГА?

## Што стаіць за тэорыяй „Раўнавагі страху"

„Ізраіль вырашыў сцерці з твару зямлі вёску Кфар-Шуба (на поўдні Лівана), каб перашкодзіць яе жыхарам вярнуцца туды і выклікаць разлад паміж імі і іх палесцінскімі братамі". Такую заяву зрабіў міністр унутраных спраў Лівана генерал Саід Насрала, які наведаў паўднёвыя раёны краіны, што падвергліся ў апошні час жорсткаму артылерыйскаму абстрэлу і бамбардзіроўцы з боку Ізраіля.

Акрамя Кфар-Шубы, абстрэлу падверглася таксама Набатыя і некаторыя іншыя населеныя пункты на поўдні Лівана, хоць і ў гэтых сялібах няма ваенных аб'ектаў. Ізраільскія артылерысты і лётчыкі вядуць прыцэльны агонь па школах, жылых дамах. Робячы варварскія налёты на Ліван, дзе размешчаны лагеры палесцінскіх бежанцаў, агрэсары спрабуюць забіць клін паміж імі і ліванцамі, справакаваць сутыкненні. Адкрытыя акты агрэсіі супраць Лівана, спробы выклікаць унутраны крызіс у гэтай краіне — усе гэтыя дзеянні прадыктаваны імкненнем сіяністкага кіраўніцтва Ізраіля ўзарваць арабскую салідарнасць. Адначасова з нападзеннямі на Ліван, урад Рабіна не пакідае спроб навязаць, так званае, „частковае ўрэгуляванне" Егіпту, ізаляваць Сірыю, схіліць іярданскія ўлады да сепаратнага пагаднення. Егіпту, напрыклад, як паведамляе заходняя прэса, Іцхак Рабін прапануе ўзяць на сябе абавязацельствы аб адмове ад прымянення сілы ў абмен на нязначны адвод ізраільскіх войск на Сінайскім паўвостраве, які належыць Егіпту. Няцяжка зразумець, што ва ўмовах прадаўжэння ізраільскай акупацыі арабскіх зямель, адмова Егіпта ад прымянення сілы выглядала б як капітуляцыя перад агрэсарам. Каменціруючы гэтыя, так званыя, „новыя" ініцыятывы Ізраіля, палітычныя назіральнікі напамінаюць, што патрабаванне аб адмове ад прымянення сілы з мэтай захопу чужых зямель запісана яшчэ ў рэзалюцыі Савета Бяспекі ААН, прынятай 22 лістапада 1967 года. Поўнае і безумоўнае яе выкананне найлепшым чынам забяспечыла б бяспеку і суверэнітэт усіх дзяржаў Блізкага Усходу, у тым ліку і Ізраіля.

Аднак у планы ізраільскіх лідэраў зусім не ўваходзіць выкарыстоўваць рэальныя магчымасці для дасягнення міру. Яны не жадаюць развітацца з надзеяй навязаць сваю волю арабам з дапамогай ваеннай сілы. Так, начальнік генеральнага штаба ізраільскай арміі генерал Гур заявіў нядаўна, што, маўляў, у бліжэйшыя пяць — дзесяць гадоў ваенны ўрад Ізраіля будзе заставацца неаспрэчным. Ды і пасля, лічыць ён, у рэгіёне будзе захоўвацца „раўнавага страху".

Але не ўсім у Ізраілі падабаецца такая перспектыва. Галасы пратэсту супраць авантурыстычнага курсу кабінета Рабіна-Перэса ўсё мацней гучаць нават у правячым лагеры краіны. У апошні час вострыя супярэчнасці выявіліся ў кіраўніцтве блоку „Маарах", які з'яўляецца ядром правячай кааліцыі ў Ізраілі. Былы генеральны сакратар Усеагульнай Федэрацыі працы Бен Агарон, прадстаўнік партыі „Мапам" у ізраільскім парламенце-кнесеце Элезер Ронен і адзін з вядомых дзеячоў Рабочай партыі, да якой належыць большасць ізраільскіх міністраў, Юсеф Сарыд запатрабавалі ад урада выпрацаваць дакладны план руху да міру. Яны падвергнулі крытыцы тактыку „малых крокаў" у справе ўрэгулявання.

Але пакуль дзяржаўны курс Ізраіля вызначаюць не рэалістычна думаючыя палітыкі, а „ястрабы", накшталт міністра абароны Шымона Перэса. Выступаючы на цырымоніі ўзнагароджання групы ваенных інжынераў і афіцэраў, Перэс зноў выказаўся за далейшае нарошчванне ваеннай магутнасці краіны. Закупкі ўзбраенняў былі ў цэнтры ўвагі перагавораў, якія вёў у Злучаных Штатах ізраільскі прэм'ер Рабін. Паводле паведамленняў прэсы, ізраільскі прэм'ер-міністр папрасіў у Вашынгтона на 1975—76 фінансавы год дапамогу больш чым на два з палавінай мільярды долараў. Большая частка гэтай сумы будзе выкарыстана на ваенныя мэты. Зразумела, што масіраваная дапамога, якую атрымлівае агрэсар з-за акіяна, падлівае масла ў агонь блізкаўсходняга канфлікту.

**А. Дэвіт**

TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 2.VIII.** 10.00 Człowiek w przechodnim podwórku — film ser. radz. 15.40 Pr. dnia. 15.45 Pr. I proponuje. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Inf., Tow., Prop., 16.45 Brazylia nieznana. 17.05 Lektury Pegaza. 17.20 A może by tak? — rep. film. 18.00 Nowe miasto na mapie. 18.30 Pojedynek — runda II — GRAŻYNA HASE—KRYSTYNA SIENKIEWICZ 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Skarb z Sierra Madre — film fab. ameryk. 22.20 Dziennik. 22.40 Sport. 23.05 Niezapomniane melodie — pr. rozr.

**Niedziela 3.VIII.** 7.20 i 7.40 Tech. Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdrowie. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Kino Tel. Dziew. i Chłop. Motyle — film fab. węg. 10.20 Antena. 10.40 W starym kinie: Film moją pasją. 11.45 Zespoły Wojska Polskiego — Koncert Galowy. 12.30 Dziennik. 12.50 Tydzień. 13.20 Z kamerą wśród zwierząt. 13.50 Klub Sześciu Kont. 14.35 Capella Musica Gnesnensis. 15.05 Los. Toto-Lotka. 15.20 Antoni z Sieradza. 15.45 Debiuty. 16.25 Refl. ob. 16.40 Sport. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Nowe przygody Vidocqa — film ser. fr. 21.25 Pr. muz. 22.25 Sport.

**Poniedziałek 4.VIII.** 15.35 Pr. dnia. 15.40 Dziennik. 15.50 Obiektyw. 16.10 TELEFERIE. 17.00 Mecz w lekkoatletyce: Polska — Francja. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: W. Szekspir — Poskromienie złośnicy. 21.45 Alfabet rozrywki. 22.40 Dziennik. 23.00 Sport.

**Wtorek 5.VIII.** 9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.00 Nowe przygody Vidocqa — film ser. fr. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pol. Film Dok. 17.40 Nie tylko dla pań. 18.00 Fakty, Op., Hip. 18.35 Lato z pomysłem. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Rancho w dolinie — film ser. ameryk. 21.15 Swiadkowie. 21.35 Pr. publ. 21.55 Dziennik. 22.10 Sport. 22.20 Kabaret Starszych Panów.

**Sroda 6.VIII.** 10.00 Rancho w dolinie — film ser. ameryk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zagubiony kwiat — film ser. węg. (Miasto w czerni). 17.50 Los. Mał. Lotka. 18.00 Poligon. 18.20 Film rozr. 18.40 Spotkania w drodze. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Dulcima — film. fab. ang. 21.55 Swiat i Polska. 22.40 Dziennik. 22.55 Sport. 23.05 Inf., Tow., Prop.

**Czwartek 7.VIII.** 10.00 Dulcima — film fab. ang. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Życie Sawanny — film. ang. 17.30 TELEFERIE. 18.45 Czym żyje świat. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 20.25 W rodzinnym gronie — film ser. ameryk. (Columbo). 21.35 Pegaz. 22.20 Dziennik. 22.40 Sport.

**Piątek 8.VIII.** 8.00 Poranek Tel. Najmł. 10.00 Columbo — film ser. ameryk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Polskie obiekty za granicą. 17.35 Znaki czasu. 18.05 Mała Encyklopedia Zwierząt — film ser. fr. 18.40 Sezam. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 A. Cyprian Dupin wkracza do akcji — film ser. CSRS. 20.55 Panorama. 21.40 Canzonissima — pr. estrad. wł. 22.20 Dziennik. 22.40 Sport.

ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 1.VIII** — 9.40 Film fab. 17.00 Koncert. 17.40 Spektakl. 19.00 Czas. 19.45 c.d. spektaklu.

**Sobota 2.VIII** — 7.00 Pr. dnia. 9.10 Pr. muz. 9.40 Spektakl. 11.30 Przegląd międzynar. 12.40 Film fab. dla dzieci. 17.15 Z całego serca. 19.30 Panorama film. 21.00 Koszykówka. ZSRR—USA.

**Niedziela 3.VIII** — 12.00 Film fab. 13.55 Pr. muz. 16.15 Film anim. 16.30 Klub film. 18.20 Film fab. 19.30 Koncert. 21.00 Sport.

КІНО

**Białowieża** Nokaut — jug. 5—6. Wspaniały interes — USA 7—8. Awans — pol. 9—10.

**Czyże** Szach królowej brylantów — radz. Wspaniały interes — radz. 6—10.

**Gródek** Nokaut — jug. 9—10.

**Kleszczele** Giuseppe w Warszawie — pol. 5—6. Brylanty pani Zuzy — pol. 7—8. Urodziny Matyldy — pol. 9—10.

**Michałowo** Love Story — USA 5—6. Poskromienie złośnicy — USA 7—8. Pociąg pancerny — radz. 9—10.

**Milejczyce** Czym mogę służyć — czes. 5—6. Koniec wakacji — pol. 7—8. Odstrzał — USA 9—10.

**Narewka** Świeć moja gwiazdo — radz. Próba terroru — USA 6—10.

**Nurzec** Mój kochany Robinson — NRD 5—6. Roztargniony — fr. 7—8. Przygody Robinsona Kruzoe — radz. 9—10.

**Orla** Zuzanna i zaczarowany pierścień — NRD. Dramat namiętności — kanad. 6—10.

**Rajsk** Opowieść w czerwieni — pol. Wiosna panie sierżancie — pol. 6—10.

**Suchowola** Godzina za godziną — pol. Michaś przywołuje świat do porządku — RFN 6—10.

B.Z.Graf. zam. 1934 P-1

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 199


## Вочы неба

Ноч палае, ноч гарыць.
Зоркі — вочы неба,
Здэцца, хочуць гаварыць,
Трэба ці не трэба.

Углядаюцца ў тонь
Возера глыбока,
Здэцца, упадуць на далонь,
Мігацяць навокал.

З неабсяжнае тае
Вышыні прастораў
Спадарожнікі мае
У радасці, і ў горы.

Старажы жывых падзей
І начной дарогі.
Светлячкі маіх вачэй —
Не гляджу пад ногі.

**Л. Танкевіч**

## Непрактычнасць

Я не хацеў бы быць дырэктарам.

Скромнасць гэтая адтуль, што амаль усе важныя персоны лічу людзьмі непрактычнымі.

У суботу, напрыклад, дырэктар — назавем яго, Глінка — паказаўся ў кактэйль-бары аднаго з лепшых рэстаранаў, каб прымачыць уданае выкананне квартальнага плану і многіх складаных кантрактаў, у якіх мы, людзі простыя, не маем аніякай арыентацыі. Дырэктар быў у адпаведнай кампаніі, і той, хто ніколі не ведаў людзей гэтакіх, як Глінка, мог бы падазраваць яго ў нешанаванні ўласнай асобы. Дырэктар Глінка заўсёды знаходзіўся ў адпаведнай кампаніі.

Пілі кан'які, якія цудоўна паглыблялі вышэй успомненае самазадавальненне. Пасля кожнай чаркі ён цмокаў і гэтак жа цмокаць даводзілося яму шмат разоў. Гутарка стала ажыўленай і нават сам дырэктар Глінка гаварыў многа ды голасна, паказваючы сябе чалавекам неганаровым. Таму і падабалася ягонай кампаніі тое, што дырэктар — чалавек усё-такі людскі. А калі стала душна і ён расшпіліў кашулю, і паслабаніў гальштук, дык цалкам прыпадобніўся да звычайных людзей. Таму і радасна блішчэлі (усім) вочы і ўвогуле — было цудоўна!

І гэтак было б можа да канца, калі б чуйнае на ўсякія ухілы ад нормы дырэктарскае вока не высачыла, што ў паненачкі, якая прасунулася, моцна напарфумаваная, каля ягонай кампаніі і прысела з нейкім мужчынам, не толькі зусім голыя плечы і празмерна адслоненыя грудзі... (Даруйце, пр]ашаемся тут занадта не асуджаць поглядаў). Дырэктар Глінка быў чалавекам бывалым у свеце, любіў скромнасць, якую добра ведалі яго сакратаркі. Ён указаў на гэту дзяўчыну сваім таварышам, якія гэтак жа не праявілі вышэйшага ведання жаночых убораў. Рогат і непрыстойныя жарты, якія, дзеля павагі да важных персонаў, не будзем цытаваць, успыхнулі раптоўна і няўстрымна.

А калі дырэктар Глінка, чалавек, як ужо вядома, бывалы ў свеце, параўнаў некамплектна і надта спакусліва апранутую жанчыну з адной парыжанкай, што прапанавала яму свае вядомыя, прафесіянальныя паслугі, рогат вясёлай кампаніі пачаў ужо звяртаць увагу.

Якраз тады і здарылася самае сумнае. Малады чалавек, што сядзеў з той фатальнай жанчынай, падбег, чырвоны ад злосці, і тузануў Глінку за дырэктарскі касцюм, брыдка лаючы. Такой знявагі ён не мог сцярпець. — Прэч хаме! — загарлапаніў. — Прэч адсюль! — піхануўшы яго ад сябе. Праз секунду — кофе разлілося па яго твары і кашулі, а сам ён, недотыкам, апынуўся на падлозе. Яшчэ спрабаваў бараніцца і словам і рукамі, але ў мітусні, якая зрабілася ў кактэйль-бары, малады аказаўся больш энергічным.

Вечар дырэктара Глінкі і яго кампаніі, што ў адным з лепшых рэстаранаў замочвалі ўданае выкананне квартальнага плана, закончыўся надта няўдана і выразна страціў на ранейшай цудоўнасці. З таго дня лічу я дырэктараў надта непрактычнымі ў звычайным жыцці.

**К. Бандарук**

## Шукаем бога

*Шукаем Бога*
*шукаем свого*
*дотыкального, бачного*
*рано, в обед, вэчаром*
*часом ў ночы*
*як заблішчыт над головою*
*голосно і болюшчо бура*
*як зорвется ветёр*
*думок і слоў ны докунчаных*
*образоў ны дамалёваных.*

*Шукаем Бога свого*
*як ман'які ўсё пытаемся*
*дэ ты? чы ты е?*
*пытаем і шукаем*
*на тэмно, навэт*
*без свечкі Юдаша*
*і мы на коленах*
*шукаем от так собе*
*без труду глубокой думкі.*

*Бога шукаем упарто*
*хочэм знайты*
*коб одказаў на ўсе пытаня*
*якія родятся разом з намі*
*і умірают колі ўжэ*
*ны можэм одозватыся*
*на ложку смэрты.*

*Шукаем...*
*Ужэ ныкоторы знайшлі*
*того простого, цэркоўного*
*якого ны бачат, ны чуют*
*і которы ныдотыкальны*
*і якій ны одказуе на пытаня*
*і которого кохают.*

*А мы шукаем дотыкального*
*а ёго ны ма*
*ны мае хто розгрышыты*
*ны ма до кого помолітысь*
*коб послі стало лёгко*
*коб нэбо ясно было*
*навэт як сонца ны ма.*

**Ніна Гаўрылюк**

## Жніво

пад мяжой
збанок скавыча
за ручкай
поле іграе
распеўненае
гаспадар вяжа
тры Гапкі ў снапок
Гапка вяжа
тры вузлы
ветру ў касынку

каб хаця не рассыпаў
выкупаных у блакітным
іржышчы неба
авечак
А ў поўдзень
пад асінай
танцуюць
сонечныя нябожчыкі
па мядовым сне.

**З. Сачко**

## Штодзень

*Ён ішоў. Рукі ў кішэнях. Нос высока. Падумаць можна — вялікая асабістасць. І ў бакі не разглядаўся — не любіў гаварыць „добры дзень". Не, тое, каб не хацеў (так сабе тлумачыў), ды і не з пыхі; проста — не любіў і ўсё.*

*Выйшаў на добра знаёмую вуліцу. Нутро загарэлася нецярплівасцю. Але ў яго моцная воля. Далей ішоў роўным крокам — не хутчэй, не памалей. Не так, як другія, подбегам. Не, ён не такі. Спыніўся. Увайшоў. У носе засвярбела ад паху гарэлкі. Узяў портфель, брыдка вылаяўся: нямнога дала, старая. За што мяне так крыўдзіць жыццё?*

*Агідны свет! Выпіў „сотку", другую і трэцюю. На больш не хапіла — халера! Далей, увесь вечар, мармытаў пад носам: халера, халера, халера... Як вар'ят. Але не, ён разумны; гэта толькі жыццё такое праклятае, дурное.*

*Думаў, сядзеўшы за пустым столікам. А можа і не думаў.*

*Ён ішоў. Да хаты. На вуліцы, сустрэць яго, дзве дзяўчыны. Рассмяяўся. Пачакайце, — крыкнуў, — курвы! Не пачакалі, пачалі ісці хутчэй. Крыкнуў галасней: — Пачакайце, мілыя! Перастаў крычаць, толькі мармытаў, цяжка ішоўшы: курвы, курвы, курвы... Дахаты ледзь трапіў. Стукнуўся аб сцяну, запаліў святло, раскрычаўся — за што мяне крыўдзяць?! З ложака паднялася дробная, не зусім яшчэ старая, худая жанчына. Палахліва паглядзеўшы на сына, запытала:*

*— Хто цябе крыўдзіць, як цябе крыўдзіць, дарагое дзіця?*

*Ён толькі злосна плюнуў на сцяну. Вядома, жыццё крыўдзіць.*

**Наташа Грыбок**

## Бо заўжды здаецца

На дошцы шахматнай
перасоўваны лёсам
губляю дні і ночы
і гады цэлыя

Па дарозе нястомнай
крутой і простай
выглядаю тэатра
у якім здзейсню усе намеры
У пагоні за часам
і зямлёй пад нагамі
пакідаю усё новыя тэатры
Бо здаецца
што заўжды ў далонях
выношу недаспелыя яблыкі

**Юрый Баена**

*

у краіне казачнай
мроі адвечнай
кветку шчасця
шукаем
дарогі стаптаныя
трактамі
сталі
за шчасцем
парадзелі лясы
сцясніліся
воды плыткімі
сталі
і рукою падаць
— планеты
Вякамі —
шчасце
усё перад намі
дзе твой
вобраз — прыстань
за табою мільёны — прыстань

**В. Леанюк**

## Родны кут

У нябыт пайшлі нягоды,
Шмат людскіх пакут.
Прыгажэе з кожным годам
Мілы, родны кут.

На палетках плён багаты,
Мора каласоў.
У лагчынах дрэмлюць хаты.
У засені садоў.

З хат да працы рана, рана,
Выйшаў мой народ.
Збожжа спелае сабрана —
Слаўны ўмалот!

І заўсёды будзе блізкім, —
Што спазнаў я тут.

Ты — жыццё маё, калыска,
Мілы, родны кут!

**Віктар Швед**

*
* *

Распраніся
хай адзенне нас не раздзяляе
так зусім зусім зусім
будзь як сонца голае над гаем
і касу на плечах распусці
каб цяпер цябе аскет убачыў
той што выкляў хараство жанчын
гнеўны жэст яго рукі завяў бы
і праклён пагас бы на губах
вочы затрымаў бы на ўзлонні
спатыкнуўся б на грудзях
і злажыў бы святасна далоні
у малітве да багоў — грудзей
але я на гэта не дазволю
распраніся для мяне
не для людзей.

**Алесь Барскі**

## Плямка

*Андрэю сніўся прыемны сон. Гэта ўстрывожыла, расплюшчыў вочы, — пятнаццаць пасля сёмай.*

*Плямку на столі заўважыў, калі агледзеўся на задаволены брэх угары, у кватэры суседа.*

*Жывіна!*

*Андрэй накрычаў на жонку (без-дай-рацыі), упусціў шклянку, пагаліўся, апрануў гарнітур, зайшоў на работу, пунктуальна а восьмай. Выпрасіў дзень.*

*Напісаў скаргу на суседа. У адзінаццаць гадзін — камісія агледзела плямку: прадстаўнік адміністрацыі жылых дамоў праўдзіва пацвердзіў, прадстаўнік вулічнага камітэта пацвердзіў і паспачуваў, прадстаўнік рады жыхароў выказаў тры дапушчэнні — або сабака намачыў, або вадаправодная труба працякае, або дождж закраўся шчылінаю невядомаю. Напісалі пратакол, пайшлі сабе.*

*Праз дзве гадзіны пасля — камісія дырэкцыі ўсіх адміністрацыяў жылых дамоў перамерала плямку, абнюхала яе, пацвердзіла пратакол грамадскай камісіі.*

*Сусед бажыўся, калі камісія наведалася і да яго... Сабака брахаў у туалеце.*

*Пайшлі.*

*Плямка расплылася ў пляму. Назаўтра Андрэю сказалі: сам галоўны інжынер абнюхваў... Сказалі, не сабака. У чацвер брыгада рамонтнікаў выбрала сцяну да вадаправоднай трубы: не працякала. У пятніцу — каваліско столі: шчыліны не знайшлі.*

*Аднак, сабака.*

**Сакрат Яновіч**

## „Весняк" — землякі

*Размова ў цягніку Беласток — Варшава:*

*— Быў на базары, заўважыў фацэта ў капелюшы. Але мяне не ашукаеш. Адразу бачу, што гэта за птушка. Стаў за ім назіраць. Падыходзіць, бачу, да фурманкі, прыцэньваецца да тавару. І пачынае нядобразычліва крытыкаваць. „Весняк" пакрыўдзіўся і адказаў моцным словам. Тады гэты, што ў капелюшы, абазваў таго „вёхай". Ах ты, думаю, пачакай! Зараз я адпраўлю цябе самым капітальным спосабам. Клікнуў міліцыянера. Ну, той зараз: проша вылігітымавацца. А я — зірк у пашпарціну капелюшніка. І што, думаеце, бачу?! З вёскі ён родам. Ну, тут я ўжо сеў на гэты капелюш. Даўно, пытаю, злез з жэрдкі? А ўжо кпіш з мужыка?! Нават птушка не паскудзіць у сваё гняздо. А ты — чалавек!..*

*Ці чалавек?*

**Уладзімір Малашкевіч**

### ЧАМУ ДЗІЦЯ НЕ ВУЧЫЦЦА РОДНАЙ МОВЕ?

Так доўга ўжо настаўнікаў сцябаюць па спіне за заняпад беларускай мовы ў нашых школах, што далей маўчаць — нельга! Вядома, настаўнік, у грамадскай ерархіі, чалавек самы нізкі. На яго і ўся бяда. А тут якраз вініць трэба тых, што ведалі актуальны, трывожны стан беларускага школьніцтва і пераходзілі спакойна да распарадку дня. Іх, аднак, гэтая справа не турбавала. Спалі спакойна. Маю тут на ўвазе візітатараў, адказных за нацыянальную асвету. Чаму яны не падымалі гэтай праблемы раней?! Усё ж лікавыя паказчыкі былі ў іх руках. І трэба было аж выступлення Юркі Туронка на сакавіцкім пленарным пасяджэнні Галоўнага праўлення, каб заўважыць, нарослую ад гадоў, праблему. А мо з Варшавы лепш відаць, што робіцца на Беласточчыне? Добра сталася, што Гайдук, пасля гэтага, пачаў дыскусію ў „Ніве". Як настаўніца — цешуся, што дыскусія над навучаннем роднай мовы прыняла даволі шырокія памеры. Гэта сведчыць аб тым, што справа навучання беларускіх дзяцей роднай мове нам не абыякавая! Не ўяўляю настаўніка, які, прачытаўшы цыкл артыкулаў „Чаму дзіця не вучыцца роднай мове" (пачатак: „Ніва" № 23 ад 8 чэрвеня г.г.), не зрабіў бы вывадаў для далейшай працы. Ад




настаўніка, як гэта падкрэсліваюць усе ўдзельнікі дыскусіі, залежыць многа, але не ўсё. Настаўнік пакліканы, перад усім на тое, каб даць вучням як найбольш глыбокія веды і падставы для самаадукацыі. На жаль, настаўнік беларускай мовы быў у сваёй працы — у апошні час — адзінокі. Добра, калі сустракаўся ён яшчэ з прыхільнасцю з боку дырэктара школы... Пайшлі ў занядпад канферэнцыі, на якіх можна было падзяліцца вопытам; не адбываліся гурткі самаадукацыі, як гэта мела месца па іншых прадметах. Хтосьці „забыўся" арганізоўваць іх. Мова стала неабавязковай, а мы, настаўнікі, ведаем, што **гэта** значыць. Зрэшты, аб гэтым пісаў М. Панфілюк у артыкуле „Мой пункт гледжання" („Ніва" № 27 ад 6 ліпеня 1975 г.). Аб цяжкасцях, з якімі сустракаюцца шматлікія настаўнікі беларускай мовы — з розных нагод шмат гаварылася. Хачу, аднак, затрымацца над самай важнай цяжкасцю. Каб добра навучыць якой-небудзь мове трэба прысвяціць гэтаму многа часу. Паслужуся прыкладам з уласнай школы. На навучанне польскай мовы прызначана ў тыдні каля 56 урокаў ва ўсіх класах. На навучанне ж беларускай — толькі 18. Хачу дадаць, што ў нас усе беларускія дзеці навучаюцца роднай мове і толькі два класы, з увагі на невялікую колькасць дзяцей, спалучаныя. У іншых школах — значна горш. Ёсць школы, дзе спалучаюцца нават тры класы — на навучанне беларускай мовы. Там лік гадзін на родную мову зусім малы. Таму ўжо залішне многа наракаць на настаўнікаў, што яны — дрэнна вучаць!

Наша народная ўлада шмат зрабіла на ніве навучання беларускай мовы, але, думаю, яшчэ не ўсё. Маю на ўвазе павелічэнне гадзін на працягу тыдня ў кожным класе, прынамсі, на 4—5.

Другая справа. Беларуская мова — неабавязковы прадмет. Таму ў школах, дзе за „надлічбовыя" гадзіны плоцяць „рычалт", выходзіць, што за навучанне беларускай мовы **не аплочваюць настаўніка.** Адтуль цяжкасці з навучаннем. Думаю, што і справу аплочвання за навучанне роднай мовы трэба, каб асветныя ўлады неадкладна ўрэгулявалі.

На заканчэнне — падпісваюся абедзвюма рукамі пад прапановамі М. Гайдука аднавіць закінутыя конкурсы і перадумаць новыя, бо гэта садзейнічае глыбейшаму зацікаўленню роднай мовай і гісторыяй не толькі з боку вучняў, але, адначасова, мабілізуе настаўнікаў да выдатнейшай працы. І ўзнімае ранг беларускага слова.

**Ялена Тапалянская,**
наст. бел. мовы ў Трасцянцы,
гміна Нарва.




*У катэгорыі фальклорнай песні ў групе калектываў трэцяе месца заняў квартэт з Дубяжына ў складзе: П. Ігнацюк, Я. Тамашук, Я. Томчук і М. Філіпюк.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

## Вёска Пуціска

Пуціска — невялікая вёска, якая ляжыць каля гміннага горада Гайнаўка. Гісторыя вёсачкі пачынаецца некалькі стагоддзяў таму назад. Дакладнай даты ўзнікнення вёскі ніхто не помніць. Пра багатую гісторыю вёскі сведчыць камень з выбітым крыжам, які ляжыць на старым магільнішчы. У гэтым месцы цяпер людзі бяруць пясок. А раз нават выкапалі аздобу з янтара. Засталіся таксама непадалёк Пуціскаў сляды па феадальным палацы. Этымалогіі назвы вёскі нават старэйшыя не могуць выясніць.

Вёска шчасліва перажыла войны, хоць прымала ў іх актыўны ўдзел. Перад II сусветнай вайной была яна намнога большая, чым цяпер. Тыя, хто застаўся, прыкладна гаспадараць на сваіх палях. Да найлепшых належаць: солтыс Мікалай Міхальчук, Уладзімір Сапешка, Сцяпан Рончка. Змяніўся вобраз вёскі. Няма, як некалі, саламяных стрэх. Людзі пабудавалі новыя хлявы і клуні. Не навасцю ў нашай вёсцы, а прадметам штодзённага карыстання з'яўляецца цяпер халадзільнік, пралька, пыласос.

Моладзь пуціская здольная і ў большасці вучыцца ў сярэдніх і вышэйшых школах. Няма, праўда, святліцы ці клуба ў вёсцы, але хто хоча правесці ў клубе вольны час, ідзе ў недалёкую Гайнаўку.

**Вада**

# Усім сэрцам

Пачатак на стар. 1

пісьменнікаў або проста расказваю пра якое-небудзь займальнае здарэнне з жыцця нашай школы. На першых уроках бывае па некалькі дзяцей, але з бегам часу грамадка павялічваецца. Адны заахвочваюць другіх: „Ідзём на ўрок беларускай мовы, ведаеш, як там файна!" На першым жа класным бацькоўскім сходзе імкнуся паказаць патрэбу і карысці, якія дае навучанне роднай мове для выхавання і адукацыі дзіцяці. І што ж, уся мая грамадка старанна вучыцца роднай мове, пачынаючы ад другога і да восьмага класа ўключна. Не буду таіць, усім сэрцам дбаю і клапачуся пра іх...

І дзеля таго, каб даць сваім выхаванкам як мага болей, І. Навацкая адной з першых паступіла на аддзяленне беларускай філалогіі Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку, а пасля заканчэння ездзіла на настаўніцкі курс у Мінск, калі ж адкрылася завочнае аддзяленне на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, яна адразу падала заяву. Цяпер ужо І. Навацкая — студэнтка IV курса. З запалам рыхтуецца да кожнага экзамена і заліку, а пішучы кантрольную працу па фальклору, запісала ў сваёй роднай вёсцы Вітаве каля 60 народных песень і 15 казак.

— І хоць у школе безліч працы, а дома трое дзяцей і муж, я надта задаволеная тым, што вучуся ва універсітэце. Калі адкрываю для сябе ўсё новыя і новыя старонкі ведаў па роднай мове, літаратуры, гісторыі і культуры, я сама ўзбагачаюся і імкнуся дзяліцца гэтым багаццем з маімі вучнямі. А атмасфера ў нас ва універсітэце надта ж прыхільная для вучобы. Нашы выкладчыкі на чале з др Э. Смулковай прысвячаюць нам не менш свайго сэрца, чым мы, настаўнікі, навучаючы роднай мове. І калі гаворка ідзе пра навучанне ў школе, дык заўважу: вельмі многа добрага робіць тое, што на заняткі па беларускай мове пасылаюць у нас сваіх дзяцей людзі надта шанаваныя ў нашым горадзе — настаўніца матэматыкі Гайнаўскага беларускага ліцэя мгр П. Рушук і настаўнік фізікі таго ж ліцэя У. Рушук. Яны — узор і прыклад для бацькоў нашых дзяцей...

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

### ПРЫЕМНА Ў КЛУБЕ Ў САКАХ

Прыемна пабываць у клубе „Селяніна" ў вёсцы Сакі, Бельскай гміны. Карыстаецца ён вялікай папулярнасцю асабліва сярод моладзі. Есць у клубе тэлевізар, радыёпрыёмнік, праігрывальнік, настольныя гульні, шматлікія газеты і часопісы. Можна тут паглядзець цікавы фільм, згуляць партыю шахматаў, выпіць модную каву або гарбату, пагутарыць аб здарэннях дня. Гэты культурны цэнтр з'яўляецца любімым месцам сустрэч жыхароў вёскі. У святочныя і вольныя ад працы дні ў клубе адбываюцца танцавальныя вечарыны. Летам, у жніво, і восенню, калі сяляне выходзяць капаць бульбу, КГВ арганізуе тут дзяцінец.

Клуб у Саках вядзе маладая дзяўчына з гэтай самай вёскі, Валя Лапацюк (на здымку). Ахвотна дапамагаюць ёй у працы, а ўжо асабліва ў падрыхтоўцы тых ці іншых культурных мерапрыемстваў, яе сяброўкі і сябры: Валя Купрыяновіч, Аня Лазовік, Яўген Паўлючук, Якуб Ясвіловіч і іншыя.

**Тэкст і фота Я. Ц.**






## Нашаніўская пара

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XVI

**Феміністычныя творы і лірыка кахання.** Да ліку феміністычных твораў трэба залічыць усе тыя вершы Гаруна, у якіх ён гаворыць аб дзяўчатах, аб жанчынах. Да лірыкі кахання належаць усе тыя творы, у якіх паэт займаецца каханнем. Зразумела, што амаль усе вершы з цыкла „Лірыка кахання" можам назваць вершамі феміністычнымі, аднак не ўсе вершы феміністычныя належаць да лірыкі кахання. Нельга фетышызаваць сцвярджэнне аб тым, што лірыка кахання атоесамліваецца з лірыкай феміністычнай. Справа ў тым, што паэт можа пісаць аб каханні не ўпамінаючы нават словам аб жанчыне. У такім выпадку твор не будзе мець якіх колечы супольных момантаў з феміністычнай лірыкай. Паэт можа пранізваць пачуццё кахання толькі праз прызму мужчынскага ўспрыймання і адчування, і хаця вядома, што гэтае пачуццё заўсёды кіруецца ў бок жанчыны, то ўсё ж такі непрысутнасць жанчыны ў дадзеным творы аддаляе яго ад феміністычнай лірыкі.

Гарун не з'яўляецца паэтам, які галоўную ўвагу звяртае на лірыку кахання і феміністычную тэматыку. Нягледзячы на гэта ў яго творчасці знаходзім рад твораў, якія належаць да гэтых двух галін. Да такіх твораў залічыць трэба „Дзяўчыначка — сэрца сябе не трывож", „Восенскі спеў", „Дзяўчаці", „Хаўтуры", „Два каханні", „Мая люба". Варта прыгадаць, што ў такіх творах, як „Мяцеліца", „Казка", „Варажба" таксама выступае феміністычная тэматыка. Аднак не будзем вяртацца да гэтых твораў, бо былі яны ўжо прааналізаваны пры нагодзе разгляду фальклорных твораў Гаруна.

Амаль усе вершы, якімі зараз зоймемся, напісаны ад імя „Я" паэта. Гэта значыць, што паэт не апісвае чужога кахання, але толькі падкрэслівае свой непасрэдны ўдзел у пачуцці кахання. Спецыфічны характар мае верш, які пачынаецца ад слоў „Дзяўчыначка — сэрца"... Аўтар адкідае ў творы залёты дзяўчыны, даказваючы ёй, што яго сэрца ўжо занята трыма каханкамі. Першая з іх — айчына, другая — маці, трэцяя — дзяўчына. Усе гэтыя каханкі зняволілі сэрца паэта і вернасць ім лічыць ён сваім святым абавязкам. Трэба падкрэсліць, што верш гэты не пазбаўлены дэкларатыўных элементаў. Цяжка яго залічыць да чыстай лірыкі кахання. Займае ён сумежную пазіцыю паміж патрыятычнай лірыкай і лірыкай кахання. Верш можам назваць аўтахарактарыстыкай. Пісьменнік характарызуе ў ім свае адносіны да айчыны, да маці і толькі ў канцы да дзяўчыны.

Другі верш „Дзяўчаці" гэта твор, у якім прадстаўлены першы імпульс пачуцця. З аднаго боку ў гэтым творы бачым дэкларацыю пісьменніка, з другога яго сумненні. У фармальным сэнсе твор гэты цяжка залічыць да вялікіх дасягненняў Гаруна. Такія сцвярджэнні як: „шчырае сэрца", „струны былога", „струны сэрца", „прамень сэрца" — належаць да сцёртых паэтычных прыёмаў. Частая паўторнасць адных і тых самых, або падобных традыцыйных паэтычных сродкаў надае гэтаму твору далёкае ад наватарскага аблічча.

Цікавы па сваёй структуры верш „Восенскі спеў". У творы паэт заклікае сваю каханую пайсці ў лес і прыслухацца да голасу восенскага лесу. І хаця ўвесь твор, па сутнасці прысвечаны пейзажу, то ўсё ж такі адчуваецца ў ім настраёвасць закаханых асоб, якія шукаюць кантакту з прыродай. Верш „Восенскі спеў" цікавы ў сваёй структуры. У адваротнасці да папярэдняга верша няма тут непатрэбнай мнагаслоўнасці. Усе радкі, усе словы выконваюць тут акрэсленую функцыю. Адкрываюць яны перад чытачом новыя элементы пейзажу і паглыбляюць настрой закаханай пары.

 



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ** **АНАТОЛИЙ КАРПОВ**

*Заказваў Сцяпан Сідарчук з Беластока.*



## ВЕР-НЕ-ВЕР

### РАКА, БЕРАГ І РЫБА

Астроне! Снілася мне, што я на рацэ. Уваходжу ў ваду зусім голы. Раптам бачу: дзяўчаты. Адна, пружыністая, з цёмным колерам скуры, плыве ў мой бок. Сорам! Стараюся выплысці на глыбейшую ваду, але амаль паўзу па пяску ўздоўж берага з голым задам наверсе. Зараснікі. Адбіваюся. Глыбокая вада. Знікла дзяўчына. Цемра. Далёка да берага. Не даплыву. Страх...

Пасля сніцца мне, што я ізноў на рацэ. Вудачка з белым чарвяком апушчана ў празрыстую ваду. Каля чарвяка таўчэцца рыба. Клюе. Вудачка ўзлятае ўверх. Брат кідаецца на яе і целам прыкрывае. Злавіў.

Што могуць абазначаць мае сны?

**Р. Л. з Бельска**

Вашы сны неаднолькавыя. Першы сон горшы. Калі б рака была спакойная, азначала б гэта поспех у вашых справах. Але ў гэтай рацэ вы не адчувалі сябе спакойна, саромеліся, што ўбачаць вас, потым паўзлі па пяску ўздоўж берага, а не маглі ніяк выплысці на глыбокую ваду. І хаця ўдаецца вам урэшце выплысці туды, дзе плывецца лягчэй, то знікае вобраз маладой і прыгожай дзяўчыны (што азначала б радасць і поспех у каханні), ды да берага далёка так, што не даплысці. А дасягнуць жа бераг — гэта азначала б дасягнуць намечаную мэту. Выглядае, што нейкае каханне пройдзе побач вас. Аднак цемра, у якой вы апынуліся, гарантуе вам спакой і дабрабыт.

Цяпер наконт другога сну. Ён лепшы. Вада ў рацэ была празрыстая. Чарвяк на вудачцы быў белы. Ды і наогул: жывую рыбу бачыць ці лавіць — цяжкі, праўда, але вельмі выгадны занятак.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў




### ПАРЭЧКІ

Ва ўсіх парэчках ёсць шмат кальцыя, фосфару, жалеза, але найбольш там знаходзіцца вітаміна С. Найбагацейшай крыніцай гэтага вітаміна з'яўляюцца чорныя парэчкі — у 100 грамах іх знаходзіцца 300 міліграмаў вітаміна С. Прыняўшы пад увагу, што наш арганізм патрабуе ў дзень 75 міліграмаў вітаміна С, маленькай жменькі чорных парэчак будзе дастаткова.

У чырвоных парэчках вітаміна С знаходзіцца ў 10 разоў менш. А ў белых яго зусім няммнога. Таму найлепш рабіць запасы на зіму з чорных парэчак і з чырвоных.

Усе зімовыя запасы з парэчак будуць мець тым большую вартасць, чым карацейшы час будзе дзяліць момант падрыхтоўкі ад моманту зрывання з куста.

### ЖЭЛЕ (ГАЛЯРЭТКА) З ЧЫРВОНЫХ ПАРЭЧАК

Спелыя парэчкі памыць, палажыць у эмаліраваны посуд, раздушыць, закіпяціць. Адставіўшы парэчкі з агню, адразу ж працерці праз нейлонавае сіта. Атрыманы перацёр зважыць. На 1 кг яго трэба ўзяць 80 дэкаў цукру. У плоскім шырокім посудзе варыць перацёр без цукру мінут 8, пасля дадаць цукар і разам награваць, пакуль не атрымаецца адпаведная кансістэнцыя. Кончыць варку трэба тады, калі колькасць атрыманага прадукту будзе мець вагу падвойнай колькасці пададзенага цукру, гэта значыць 1,60 кг. Гатовае жэле скласці ў сухія слоікі і ўшчыльніць.

### ДЖЭМ З ЧОРНЫХ ПАРЭЧАК

На 1 кг чорнай парэчкі трэба ўзяць 0,50 кг цукру.

У плоскі посуд палажыць чорныя парэчкі, перабраныя, памытыя і ачышчаныя. Засыпаць іх цукрам. Паволі награваць, лёгка памешваючы. Варыць ад таго моманту, калі закіпяць, мінут 20. Адразу ж складваць джэм у слоікі, як толькі знімем яго з агню. Слоікі ўшчыльніць цэлафанам.

Атрыманы джэм будзе вельмі мала салодкі. Каб быў саладзейшы, трэба колькасць цукру павялічыць да 65—70 дэкаў на 1 кг ягад.

**Гаспадыня**




*Дарагое „Сэрцайка“!*

Мне 16 год, а Мішу 18. Ён з суседняй вёскі, а вучымся мы ў адным горадзе. Неаднойчы прыязджаў ён у нашу вёску на забаву. Танцавала я з ім, так як і з іншымі хлопцамі. Але вось у мінулым навучальным годзе сустрэліся мы на школьнай забаве. Міша ўзяў мяне танцаваць, гулялі цэлы вечар. Мы пачалі спатыкацца. Але цяпер, здаецца, кахаю я Мішу. Гэта мой першы хлопец. Не кахала я яшчэ нікога. Мы многа часу праводзілі разам, і я занядбалася ў вучобе. Бацькі і настаўнікі былі здзіўлены, бо я вучылася нядрэнна, а то ледзь перайшла ў наступны клас. Але нягледзячы на ўсё, была шчаслівая. Радавалася жыццю. Але ўжо ўсё скончылася. Змяніўся для мяне свет, усё абыякавае, нішто не цешыць. А гэта таму, што пакінуў мяне Міша. Ён ужо пад канец года нейк інакш захоўваўся. Спатыкаліся штораз радзей. Тлумачыўся, што не мае часу, навукі шмат. Але з нейкай дзяўчынай сяброўка яго бачыла. На канікулах спаткаліся толькі адзін раз і ён паехаў у лагер. З нецярплівасцю чакала я ад яго пісьма. Урэшце атрымала, але было яно мне вельмі прыкрае. Міша пісаў, што дайшлі да яго весткі, што я з хлопцамі езджу на забавы і нейкія іншыя яшчэ больш прыкрыя справы, і ён ужо са мной хадзіць не хоча. Страшна перажываю гэта. Не ведаю, што рабіць, я ж у нічым не вінавата. Парай мне, „Сэрцайка“!

**Галіна з Бельшчыны**

Галіна! Усё ясна. Міша ўжо не хоча з табой хадзіць, і кахаць жа не прымусіш. Ды, відаць, несалідны гэта хлопец. Ён і расстацца культурна не ўмее. Гэта брыдка аплёўваць дзяўчыну і рабіць яе вінаватай. Дык і не шкадуй ты яго. Адпачывай, набірай сілы да навукі, каб не мець прыкрасцей, як у гэтым годзе. На хлопцаў яшчэ будзе час.

**„Сэрцайка“**

## Кансультацыя юрыста

**ПЫТАННЕ:** Адразу пасля вайны браты падзялілі сялібу і будынкі. У доме дзве кватэры і кожны з іх атрымаў асобную. Кожны з іх мае свае гаспадарчыя будынкі. Панадворкам карыстаюцца супольна. Агарод падзялілі на роўныя часткі і кожны карыстаецца сваёй часткай. З праўнага пункту гледжання яны надалей лічацца супольнымі ўласнікамі цэлай сялібы. Яны хацелі б, каб кожны з іх лічыўся ўласнікам таго, чым дагэтуль карыстаўся. Ці можна падзел гэткі правесці праз суд? Ці можна лічыць, што яны набылі ўласнасць з-за даўнасці?

**АДКАЗ:** Падзел праз суд быў бы магчымы, калі б можна было зрабіць дзве сялібы. Пры гэтым, калі б будынкі, у тым ліку і дом, апынуліся ў выніку гэтага падзелу на ўчастку, прыдзеленым другому, то трэба было б пераносіць будынкі на свой участак. Не можа быць такога падзелу, каб будынкі знаходзіліся на чужым участку. Будынкі могуць быць уласнасцю толькі таго, на чыёй зямлі яны знаходзяцца. Калі б сяліба была падзелена гэткім спосабам, то браты маглі б набыць уласнасць сваіх участкаў з-за даўнасці. Аднак у абставінах, вышэй прадстаўленых, набыццё права ўласнасці з-за даўнасці немагчыма.

## Ці ведаеце, што...

...у Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі самы нізкі прырост насельніцтва ў свеце (12,8 на 1000 чалавек), а ў Свазілендзе — самы высокі (52,3 на 1000);

...Нігерыя, Верхняя Вольта, Шры Ланка, Індыя, Кмерская Рэспубліка, Іярданія і Пакістан з'яўляюцца адзінымі краінамі ў свеце, дзе працягласць жыцця мужчын вышэйшая, чым жанчын. (ті)




Не, ён не загінуў — ён жыў, але навакольны свет даходзіў да яго свядомасці праз пякельную нясцерпнасць пакут. Спачатку было такое ўражанне, нібы ён дзесьці сцяты, сціснуты, бы ў якой зубатай пашчы, і страшны боль пранізвае ўсё яго цела. Асабліва балела галава; нешта там, у самым нутры мозгу, торгала, калола, рэзала, варухнуцца не было сілы, і было вельмі пакутна. Яшчэ больш балела спіна. Ад гэтага болю ў адно з праясненняў свядомасці Валоку здалося, што ён раздзеты ляжыць на іржышчы, калючкі якога разам з калючкамі асоту ўпіваюцца ў яго цела. Ён хоча крыкнуць, паваць суседа Трахіма, які жне побач на коннай жняярцы, але ніяк не можа выдавіць з сябе таго крыку. Праз хвіліну, аднак, ён бачыць жняяра; толькі гэта чамусьці не Трахім, а немец — той Фрыц, з якім ён спаткаўся куды пазней, на вайне, і ў яго аўтамат, — аднаруч ён тузае лейцы, а другой прытрымлівае на каленях зброю. Немец чамусьці гаворыць па-беларуску, Валока заходзіцца ад страху, бо ведае, што жняяр Фрыц зараз спыніць коней і застрэліць яго. Ён ездзіць па кругу навокал байца, кругі ўсё звужваюцца, і зубы жняяркі ўсё бліжэй прысоўваюцца да яго ног. А тут яшчэ дужа пячэ сонца, так смаліць, што ажно разломваецца галава, унутры ўсё ссохла, і нясцерпна хочацца піць. Валока шэпча: „Піць, піць...“ — толькі слоў няма: вусны варушацца, а гук прапаў. Затым сонца пачынае зніжацца, падступаць да яго, але чамусьці робіцца маленькім, не большым за агеньчык запалкі. Страх патроху мінаецца, толькі спякота ўсё ранейшая і ўсё хочацца піць. І яшчэ робіцца цёмна, прападае кудысьці поле і Трахім; а ён апыняецца ўжо на вайне. За пагоркам стракоча кулямёт, а недзе паблізу над галавой чуецца спагадлівы голас іх ротнага санінструктара Корзана: „Гут, Іван, гут! Жывы Іван гут...“ Санінструктар гаворыць па-нямецку, толькі байца гэта чамусьці не здзіўляе, той рады, што побач чалавек — ён дапаможа. І зноў загараецца ў цемры агеньчык і плыве некуды ўдалячынь. Валока жахаецца ад таго, што яго пакідаюць, ён ускрыквае ад жудасці, як некалі ўскрыкваў у маленстве, напалоханы жахамі сноў. І ўжо з большай рэчаіснасцю бачыць у змроку асветленую з таго боку постаць з адарваным пагонам, які цяляпаецца на плячы. Постаць сунецца кудысьці ў цёмны кут, на момант слабенькаю плямай асвятляецца сцяна ў адным месцы, пасля ў другім. І вось у асветленай мясціне мільгае знаёмы абрыс аўтамата. Валока здзіўляецца — гэта ж яго ППШ нумар 0482. Баец не цяміць яшчэ, што і як сталася папярэдне, не ведае, хто там, толькі здагадваецца, што гэта не санінструктар. І ўсведамленне таго, што яго абяззброілі, зноў жахам працінае байца. Пераадольваючы страшны боль у галаве, ён прыўзнімаецца з долу, пакутна сядае, падпёршы сябе дрыготкімі рукамі, намацвае нейкі цагляны абломак і чакае. Забіць, забіць, забіць у што б там ні стала, інакш заб'е той!.. Валока спрабуе ўстаць, сэрца яго надрыўна калоціцца ў грудзях, толькі ён дужа слабы, цяжкія рукі не слухаюцца, і страшны боль у галаве мацнее. А вораг усё поўзае ў цемрывай далечы, высветлівае глухі мур сцяны — што ён шукае? Затым плямка святла спыняецца, дрыжыць на адным месцы, коратка клацае затвор аўтамата. Валока, душачыся ад болю і знямогі, сціскаецца, у вачах мутнее, і тады ў куце грукае стрэл. Шырокі чырвоны бляск зусім асляпляе байца, рукі не вытрымліваюць, ён падае, але боль не павялічваецца — чалавек жыве. Ён збірае ў сабе сілы крыкнуць, нясцерпна паміраць у гэтай нямой маўклівасці, але ў той час да яго слыху даносіцца мернае, вельмі лагоднае ціркатанне вады. Ну вядома ж, так можа цвірчэць толькі вада! Валока ўжо бачыць у цемры яе зіхаваты струмень і, адчуваючы, як пакідаюць яго рэшткі свядомасці, выдаўлівае з сябе стогн.

Наступным яго адчуваннем было далікатнае, лагоднае казытанне на барадзе, на шыі; здавалася, нейкая жывая істота паўзла за каўнер, на грудзі, толькі на вуснах і ў роце стала лепш і нешта жалезна-цвёрдае дробненька стукала аб зубы. Валока расплюшчыў вочы — у зрок ударыла рассыпчатая яркасць іскраў; яны гойдаліся, скакалі на адным месцы ля самага яго твару, але не пяклі. Пасля ён сцяміў, што ўсё гэта адбівалася ў вадзе. Аднекуль здалёк да слыху даходзілі словы:

— Трынкен, Іван! Трынкен!

Ён глытаў доўга, многа, зубы ляскалі аб край нейкай пасудзіны, а ў свядомасці коратка і выразна бліснула ява — ён згадаў, дзе ён і хто з ім. „Немец! Фрыц!“ На момант адарваўшыся ад вады, ён зірнуў угору, — над ім мільгала ў кулаку запальнічка і расплываўся ў нейкай недарэчнай ухмылцы страшны, тупы ад таго, што быў незвычайна падсветлены знізу, твар з вялікімі і валасатымі ноздрамі, брывастым ілбом, пад якім лыпалі выпуклыя жаўтлявыя бялкі вачэй. Вочы, аднак, таілі ў сабе лагоду і спагадлівасць, і гэта супакоіла байца.

— Трынкен, Іван. Трынкен...

(Працяг будзе)



 

# Саламяны ўдавец

Жонка далікатна пацалавала мяне на развітанне і сказала:

— Ну, дарагі, не сумуй і будзь уважны, закручвай ваду і газ, палівай кветкі, канчай урэшце сваю повесць, а галоўнае: звані мне кожны вечар!

Яна села ў аўтамабіль і паехала.

Камень упаў з майго сэрца.

Я перавальваючыся падыйшоў да найбліжэйшай лавачкі і ўсеўся на яе так, як могуць сядзець толькі людзі, перад якімі два тыдні бестурботнага жыцця.

А цяпер, падумаў я, цяпер нешта павінна здарыцца. Нешта надзвычайнае і небывалае. Добры ж пачатак — палова поспеху. Ну, напрыклад, да пад'езда мог бы пад'ехаць бліскучы лімузін. За рулём сядзела б фантастычная бландзінка з фантастычна доўгімі нагамі і з фантастычнымі блакітнымі вачыма. Яна высунулася б з акенца, глянула на мяне сваімі блакітнымі азёрамі і музыкальным голасам спытала:

— Выбачайце, вы выпадкова не той славуты пісьменнік Эрно Хеймігланц?

— Выпадкова той, — адказаў бы я, выпускаючы элегантнае воблачка дыму.

— О маэстра, я так рада, — праспявала б яна. — Не хацелі б вы сесці да мяне ў машыну?

— А куды вы мяне павязеце? — спытаў бы тады я.

— Ах, хоць бы на край свету! — апусціўшы вочы, адказала б яна.

І тады, думаю, я сеў бы побач з ёю...

Ад летуценняў мяне абудзіў гудок. Ля пад'езда стаяў раскошны лімузін, з якога выглядвала фантастычная жанчына з залатымі валасамі, доўгімі нагамі і з... блакітнымі вачыма.

— Выбачайце, — раздаўся яе меладычны галасок, — вы выпадкова не Эрно Хеймігланц? Пісьменнік?

— Выпадкова я, — адказаў я, ліхаманкава закурваючы цыгарэту.

— О, я так рада! — усклікнула яна. — Прашу вас, сядайце хутчэй у маю машыну!

— А куды вы мяне адвязеце? — спытаў я дрыжачым голасам.

— Тут непадалёк, — адказала яна. — Ваша жонка ўрэзалася ў слуп і памяла машыну. Яна вельмі расхвалявана і прасіла мяне, каб я вас прывезла. Ну сядайце ж!

Што мне заставалася — я сеў.

**Якуб Абламоўскі**
*(Чэхаславакія)*







*— Калі адзіночнае зняволенне — значыць, адзіночнае.*

# СОЛЬ І ПЕРАЦ

*Праз вякі і праз гады*
*Кажуць гэтак людзі:*
*— У пашане соль заўжды*
*Ёсць, была і будзе.*

*Без яе — хоць падай-стой,*
*Дрэнь, як кажуць, справа.*
*Без яе — трава травой*
*Нам любая страва.*

*Соль — найначай — гэта*
*цуд.*

*Я скажу тут болей,*
*Каб спазнаць каго, дык пуд*
*З ім трэ з'есці солі.*

*Як ні глянь ты на яе,*
*Соль — ва ўсім аснова.*
*Нават слова без яе —*
*Не такое слова.*

*Калі трэ каму „падліць",*
*Крышачку „працэрці" —*
*Трэба слова падсаліць*
*Ды яшчэ й падперчыць.*

*Калі ў чымсьці не лады,*
*Схібіць хто, саб'ецца,*
*Лекі выдадуць тады —*
*Падсыпаюць перцу.*

*Каб нам жыць і не тужыць,*
*З суму не памерці:*
*Дзе патрэба — падсаліць,*
*А дзе трэ — падперчыць.*

**Ул. Правасуд**

### ВЕЛЬМІ ЗАНЯТЫ

Разважаюць хлопчыкі.

— Мы з татам у нядзелю хадзілі ў цырк.

— Добра, што ў твайго таты свабодныя нядзелі, а мой працуе кожны дзень, — сумна кажа другі.

— А кім ён працуе?

— Я дакладна не ведаю, але, мабыць, збойнікам, бо заўсёды кажа: „Пайду забіваць казла".

### ХІТРЫ ПАМАГАТЫ

Коля, прыйшоўшы са школы, забег да свайго сябра — аднакласніка і гаворыць:

— Сцёпка, давай я дапамагу табе задачу рашыць, а потым пойдзем пагуляем.

— Вельмі добра, — адказвае Сцёпка, — толькі, каб хутчэй было, ты рашай задачку, а я табе дапамагаць буду.

### ПАШКАДАВАЎ

Па вясковай вуліцы, ледзь трымаючыся на нагах, ішоў п'яны чалавек.

Дарослыя глядзелі на яго з абурэннем, а шасцігадовы хлопчык сказаў:

— Ох і шкада мне гэтага дзядзькі.

— Чаму? — запыталіся дарослыя.

— Такі вялікі, а хадзіць яшчэ не навучыўся.



**...Ён быў такі скупы, што нават уласныя думкі заўсёды трымаў пры сабе.**

**...У жыцці яго чакалі вялікія справы, ды так і не дачакаліся.**



*— Эй, нехта вас кліча!*

### ЖЫЖЫ

Жонка раніцай гаворыць мужу:

— Ты ўвесь час у сне паўтараў: „Жыжы, Жыжы, Жыжы". Што гэта значыць?

— Жыжы — гэта кляча, на якую я ў мінулы раз паставіў на іпадроме. Спадзяюся, ты не раўнуеш мяне да нейкай клячы?

Вечарам муж вяртаецца дамоў пасля працы:

— Што новага, дарагая?

— Да цябе нехта званіў. Здаецца, што твая кляча.

### НА ЧАЙ

У атэлі гутараць насільшчыкі:

— Падумай, учора вечарам я аднесіў куфар аднаму шатландцу на пяты паверх. Калі мы ўвайшлі ў нумар, ён сунуў мне нешта ў руку і сказаў: „Гэта вам на чай!"

— І што ён табе даў?

— Кавалачак цукру!

### ЧАРОЎНА

Двое англічан п'юць віскі і размаўляюць:

— Мінулай ноччу мне сніўся цудоўны сон: я катаўся на лодцы з Клаўдзіяй Кардзінале, — гаворыць адзін.

— Ну і як? — з цікавасцю пытае другі.

— Гэта было чароўна! Я злавіў трохкілаграмавую фарэль!

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Міраславы Стэпанюк з Вітава змяшчаем песню*

# У деревни Крюково

**Музыка М. Фрадкина**
**Слова С. Островoго**

Шел в атаку яростный
Сорок первый год.
У деревни Крюково
Погибает взвод.
Все патроны кончились,
Больше нет гранат,
Их в живых осталось
Только семеро
Молодых солдат.
Лейтенант израненный
Прохрипел: „Вперед!",
У деревни Крюково
Погибает взвод.
Но штыки горячие
Бьют не наугад,
Их в живых осталось
Только семеро
Молодых солдат.
Будут плакать матери
Ночи напролет,
У деревни Крюково
Погибает взвод.
Не сдадут позиций,
Не уйдут назад.
Их в живых осталось
Только семеро
Молодых солдат.
Отпылал пожарами
Тот далекий год.
У деревни Крюково
Шел стрелковый взвод.
Отдавая почести,
В тишине стоят
В карауле
У холма печального
Семеро солдат.
Так судьбой назначено,
Чтобы в эти дни
У деревни Крюково
Встретились они.
Где погиб со славою
Тот бессмертный взвод,
Там шумит,
Шумит сосна высокая,
Птица гнезда вьет.

### КЕМЛІВЫ

— Паслухай, сынок, вось у газеце пішуць, што лось напаў на настаўніка.

— А як лось здагадаўся, што гэта настаўнік?




### КАСЦЫ

Касілі два касцы: бацька і сын.

— Ой, — кажа бацька, — як жа мы мала накасілі!

— Э, — кажа сын, — вы стары, я малады, каму ж тут было касіць?

Але селі яны палуднаваць.

— Ой, — кажа бацька, — як мы многа з'елі!

— Эй, — адказвае сын, — вы мужчына, і я мужчына, ці ж не было каму есці?




### ТАБЛІЧКА

Таблічка з надпісам у прыёмнай аднаго парыжскага адваката: „Калі б мужы намагаліся з такою ж настойлівасцю ўтрымаць сваіх жон, з якою яны калісьці намагаліся заваяваць іх, разводаў было б значна менш".

### НАЙСТАРЭЙШЫ ШАФЁР АНГЛІІ

Герберт Уорэн, які адсвяткаваў нядаўна стагоддзе ад дня свайго нараджэння, — найстарэйшы шафёр Англіі. Пяцьдзесят год таму назад сеў ён упершыню за руль аўтамабіля. „Я маю добрыя вочы і цудоўны слых, — сказаў юбіляр, — адзінае, што можа „выкінуць мяне з сядла", — гэта вар'яцкія цэны на бензін".

### ТОРТ ДЛЯ ГУЛІВЕРАЎ

Семсот шэсцьдзесят тры кілаграмы важыць гіганцкі торт (яго вышыня больш за тры метры), прыгатаваны балгарскімі кулінарамі братамі Асенам і Недка Чэушавымі. На яго пайшло ні многа, ні мала 2500 яек, 275 кілаграмаў цукру, цэнтнер мукі, 600 плітак шакаладу. Ранейшым рэкардсменам сярод кандыдатаў лічыўся англічанін Эйвілі, які змайстраваў славуты торт „Эйфелева вежа".

### ГАЙД-ПАРК

У Лондане ў славутым Гайд-парку можна ўбачыць таблічку з такім надпісам: „Культурныя і выхаваныя людзі ніколі не смецяць у парку. Усім іншым гэта строга забаронена".

### КАРЫСНАЯ ЗАМЕНА

„У пачатку месяца я памянялася з сяброўкай работай і яна ўзяла маю, а я — яе мужа".

*(З тлумачальнай запіскі)*




**На думку Сланечніка, Сонца круціцца ўвесь час вакол яго.**